# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 25 (39) 20—26 жніўня 1993 г. Кошт 5 рублёў



«Гусары денег не берут-с!» **ЛІСТЫ ДА ГОМАСАВЕТЫКУСА.**

Замест Беларускай гімназіі — школа імя Сталіна. Гутарка з **ВЭТЭРАНАМ СБМ.**

**ІШКАЛЬДЗЬ.** Малое падарожнае апавяданьне.

**ПРАГРАМА ТЭЛЕПЕРАДАЧ** на тыдзень. Менск — Масква — Варшава.


# Запрашаем у старадаўнюю Вільню




ТУРЫСТЫЧНАЯ ФІРМА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ «VILNENSIA» ЗАПРАШАЕ Ў СТАРАДАЎНЮЮ ВІЛЬНЮ

**Гутарка з дырэктарам турыстычнай фірмы Таварыства Беларускай Школы «Vilnensija» сп. Луцыяй Чэчат.**

— Ідэя стварэньня турыстычнага бюро існавала ўжо даўно, бо вельмі часта прыязджаюць ў Вільню тыя, хто хоча больш падрабязна пазнаёміцца з горадам. Але больш канкрэтныя абрысы яна набыла з адкрыцьцём беларускага аддзяленьня на факультэце славістыкі Віленскага пэдагагічнага унівэрсітэту і з аднаўленьнем *Таварыства Беларускай Школы*, якое дзейнічала ў Летуве ў міжваенны час. Усё гэта паспрыяла юрыдычнаму афармленьню турбюро «Vilnensija» Таварыства Беларускай Школы.

**— Што азначае гэтая назва!**

— Слова «Vilnensija» — лацінскага паходжаньня, азначае прыналежнасьць да горада Вільні. Гэтая назва адлюстроўвае накірунак нашай дзейнасьці — знаёмства з гісторыяй і культурай, найперш, горада і края.

**— Чым вы займаецеся цяпер!**

— Мы пазнаёміліся з турыстычнымі бюро Наваградка, Менску, Баранавічаў, Магілёва, Катавіцаў. Прынялі некалькі груп з Беларусі, Польшчы, Гэрманіі.

**— Якія экскурсіі вы прапаноўваеце!**

— У нашай працы акрэсьліваюцца два накірункі: экскурсійная праца і арганізацыя адпачынку. Па-першае, гэта аглядавая экскурсія, якая знаёміць з гісторыяй і архітэктурай горада, па-другое, мы распрацавалі маршруты, якія знаёмяць з культурнымі здабыткамі кожнага народа Віленшчыны, бо Вільня — гэта унікальны рэгіён перакрыжаваньня разнастайных нацыянальных гістарычных традыцый — літоўскіх, польскіх, беларускіх, жыдоўскіх, расейскіх, украінскіх, татарскіх. Трэцяе, мы прадугледжваем экскурсіі больш вузкай тэматычнай накіраванасьці, напрыклад, архітэктура горада, літаратурныя старонкі і гэтак далей. Акрамя экскурсій па горадзе, мы прапаноўваем падарожжа ў Трокі, Коўну, Медніки, Салечнікі. Для жыхароў Летувы арганізоўваем паездкі ў Беларусь.

Для адпачынку наша турбюро прапаноўвае азёры Трокаў, Малетай, узьбярэжжа Балтыкі.

**— Якія ў вас цэны!**

— Канешне, у наш час межы, розныя валюты, нестабільнасьць эканомікі не спрыяюць працы экскурсійнага бюро, але гэта не павінна перашкодзіць ахвотным цікава арганізаваць свой адпачынак. Ёсьць, аднак, і станоўчы момант: паміж Беларусьсяй і Летувою няма візавага рэжыму. Мы ўлічваем усё гэта і таму прапаноўваем паслугі рознага ўзроўню, жыльля і харчаваньня. Гэта можа быць толькі экскурсія альбо экскурсія з полуднем, калі паездка на адзін дзень. Калі на два, тры і больш дзён, то мы забясьпечваем жыльлём у гатэлях рознага разраду, двухразовым харчаваньнем, арганізоўваем экскурсіі па Вільні і паездкі ў іншыя месцы Летувы. Мы прымаем групы колькасьцю да 30—40 чалавек, але калі вы маеце ахвоту падарожнічаць індывідуальна, і ў гэтым выпадку турбюро «Vilnensija» запрашае Вас.

**— Хто ў вас працуе!**

— Яшчэ да стварэньня турбюро Вільню нашым гасьцям паказвалі Людвіка Кардзіс, Тацьцяна Поклад, заўсёды з зацікаўленасьцю слухаюць аповяды навукавага супрацоўніка Акадэміі Навук Летувы Юрася Шаўцова, і, безумоўна, знаўцу старадаўняй Вільні Лявона Антонавіча Луцкевіча. Лявон Антонавіч вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, яшчэ падлеткам быў экскурсаводам у Музэі беларускай культуры. Дзядзька Лявон шчодра дзеліцца сваімі ведамі са студэнтамі Беларускага аддзяленьня ВПУ і падрыхтаваў кваліфікаваных гідаў. Гасьцям з Беларусі Лявон Антонавіч адкрывае беларускія стронкі Вільні.

**— Як жа вас знайсьці!**

— Калі ласка, зьвяртайцеся на адрас: Катэдра беларусістыкі, Віленскага пэдагагічнага унівэрсітэту, вул. Студэнту 39-527, 2034 Вільня, Летува. Тэл.: 8-0122/35 58 01; 45 82 91.

Сардэчна запрашаем!



Вільня. Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.

## Пілегрынацыя цудатворнай іконы

З эпархіі да эпархіі вандруе па беларускай зямлі цудатворная ікона Божай Мацеры, якая дагэтуль знаходзілася ў Малой Базыліцы — касьцёле ў мястэчку Будслаў Мядзельскага раёна. Нядаўна яна была дастаўлена ў Фарны касьцёл горада Горадні. Плануецца, што тут Сьвяты цудатворны вобраз прабудзе каля месяца, а затым прадоўжыць вандроўку па Гарадзеншчыне. Раней ікона Божай Мацеры гасьцявала па прыходах Пінскай эпархіі.

## Будзе сваё сьвятое месца ў каталікоў Беларусі

Сёлетняе лета стала адметным у жыцьці каталіцкай дыяспары на Беларусі. З Ватыкану на адрас Менска-Магілёўскай эпархіі прыйшоў факс аб наданьні кафэдральнаму касьцёлу ў Будславе Менскай вобласьці тытулу «Малой Базылікі». Гэта зроблена з мэтай стварэньня на Беларусі сваёй Чэнстаховы для вернікаў.

Г. У.

## Гінэколаг у касьцёле

Нядаўна ў штаце Фарнага касьцёла Горадні зьявілася пасада ўрача-гінэколага. Новая штатная адзінка працуе ў Сьвятым храме з нагоды падрыхтоўкі маладых параў да правільнага вядзеньня сумеснага жыцьця пасьля таямніцы вянчаньня.

Дарэчы, ў Фарным касьцёле вельмі адказна ставяцца да шлюбу маладых. Напярэдадні шлюбу жадаючым стварыць сям'ю чытаецца восем абавязковых тэалягічных лекцый. Усе выдаткі на гэтыя справы ўзяла на сябе каса касьцёла.

Г. У.

## Гарадзенец Астапковіч — другі ў сьвеце

Першы свой мэдаль заваявала на чэмпіянаце сьвету, які гэтымі днямі праходзіць у Нямеччыне, зборня легкаатлетаў Беларусі. Прыемна, што гэтую сярэбраную ўзнагароду прынёс у скарбонку нашай каманды гарадзенец Ігар Астапковіч.

Дарэчы, на свой першы чэмпіянат сьвету наша рэспубліка выставіла 45 атлетаў.

Г. У.





# ГРАМАДЗТВА

**● Лісты да гомасаветыкуса**

# «Гусары денег не берут-с!»

1.

Восень 1993 г. Паседжаньне Вышняй Рады. Абмяркоўваецца грашовае пытаньне. Камуністычная большасьць не жадае паступіцца прынцыпамі, здрадзіць здрадніцу Расею. Вырашана выдзяліць даляры, каб закупіць у суседзяў макулатурныя савецкія грошы й аднавіць СССР са сталіцай у Менску. Абы толькі не дазволіць нацыяналізм у выглядзе беларускай валюты.

Глупства? Але ж пабачыце, гэтак і будзе, калі яны толькі ўвогуле зьбяруцца. Год назад іх паўгады на сэсію не загнаць было, бо яны ня ведалі як бы гэта праігнараваць рэфэрэндум. Ажно дадумаліся. Пытаньне з талерамі таксама выклікае ў іх тупую нянавісьць. Калі ўвесну праф. Багданкевіч рахмана сказаў ім, што без уласнае валюты няма рады, яны ажно нагамі затупацелі.

Сапраўды, няма рады, калі ў галаве адна зьвіліна — савецкая. Калі ты гомасаветыкус, дык гэта надоўга, звычайна да сьмерці (гарбатага адно магіла спраміць). Аднак сэ ля ві — няма Абрэвіятуры, няма нават ужо грошай з балюча знаёмым партрэтам. Усе гэтыя паседжаньні пачынаюць нагадваць Мапэт-шоу са сьмешна-недарэчнымі пачварамі. Заалагічны музэй.

2.

Вы купляеце ў краме 1000-рублёвую пляшку, даяце прадаўшчыцы ўсяго сотку, а яна й слова супраць ня скажа. За цэлафанавы пакет замест пяцёркі даем 50-капеечную вавёрку... Дзівосы дый годзе! Беларускі варыянт камуністычнага раю. А можа прыкметы краіны дурняў?

Пасьля ўсіх гэтых пeратурбацыяў з савецкімі рублямі ў крамах паспраўлялі цэны, але ж, як заўжды, па-гомасавецку. Не-савецкаму чалавеку як двойчы ў два зразумела, што на ўсіх цэньніках неабходна было закасаваць нуль, чаго зроблена, вядома ж, не было. Гэй, вы, сталічныя ўлады! У нас болей не існуюць 1000-я купюры, у нас няма болей паралельных грошай, мы плоцім за тысячарублёвую бутэльку паперкай, на якой (каню відавочна!) намаляваны зубр й лічба «100»!!! Ня чуюць. Гомасаветыкусы.

Працягваецца гульня ў голага караля.

3.

Я ня ведаю, хто дазволіў нашаму ўраду выпусьціць часовыя нацыяналістычныя грошы. Вышняя Рада, як вядома, у душы была супраць. Ейнай ідэялагічнай цнатлівасьці перашкаджала Пагоня, бо замест чырвонай зоркі на шчыце — крыж, прычым не зусім руска-праваслаўны.

Сказаўшы «а», гавары «б», не выглядай на дурня. Тым часам Вышняя Рада рашуча супраціўлялася эмісіі сапраўдных беларускіх грошай, асабліва іхняй назьве — талеру. Лунаючы дзесь ў сацыялістычна-савецкіх мроях, дэпутаты ўяўлялі сябе нашчадкамі казакоў, якія ў г. Пераяслаўе даўней пакляліся: «З Расеяй — да скону!». Мы — харошыя, мы — савецкія, мы амаль рускія, мы гэтак любім маскоўскія грошы: Ленін, Крэмль, дзьвюхгаловы арол. Бабры з вавёркамі — часовая патрэба (як у 19-м годзе ССРБ), Ластоўскага з Луцкевічам на купюры не дапусьцім.

Крытэрый усіх нашых рашэньняў адзін: паслухаць, што скажа Пазьняк й паспрабаваць усё зрабіць наадварот, або хаця б напалову. Скажы, дапусьцім, Пазьняк, што гарбату трэба саладзіць, а сала саліць...

4.

Дарагія таварышы!

Жыцьцё — рэч надзвычай складаная й разам вельмі простая. Калі мы гаворым, што сонца сьвеціць, дык гэтак і ёсьць сапраўды, нават калі Маркс з Хрушчовым сцьвярджалі адваротнае.

Калі БНФ загаманіў некалі пра ўласную валюту, дык гэта зусім не таму, што тамака сабраліся нацыяналісты, а таму, што ва ўсім сьвеце так: гарбату салодзяць, сонца сьвеціць й г. д. Вам, канешне, гэта не даспадобы, але падобныя рэчы не залежаць ад густаў.

5.

Пшык!

А як усё даволі ўдала пачыналася! У чэрвені летась, прыблізна аднaчасова з суседзямі, паявіліся беларускія часовыя грошы. Нават самападман цешыў: замест савецкага чырвонца давалі адзін беларускі рубель, хаця цэны былі савецкія, а штучны курс нічога не даваў нам, бо заробак плацілі, калі нашымі вавёркамі, дык у 10 разоў менш. Але крок быў слушным. Спраўдзіўшы патрэбы краіны ў купюрах, пільна неабходна было зрабіць наступны крок — выпусьціць нацыянальную валюту (як і суседзі!). Але ідэялагічны дурман накшталт славэтнай «чаромхі» затлуміў дэпутатам галовы. Яны мазжачком адчувалі: нацыянальная валюта — апошняя абавязковая ўмова Дзяржаўнага Суверэнітэту, г. зн. дарогі назад у СССР ня будзе.

Круцілі вала за хвост, круцілі, а потым разбурыліся на летнія вакацыі, а мы за лета ў дзесяць разоў згалелі. Дзякуй, народныя абраньнікі!

Цяпер наш нацбанк падае курс белрубля да расейскага, як 1/0,5, а зусім не міфічныя 1/10, хаця маскоўскі Цэнтрабанк крыху лагоднейшы, бо за наш рубель прапануе ажно 67 капеек!

Кто смел, тот и съел.

6.

Вот сволачы! Цяпер нікуды ня зьезьдзіш,— журыўся ў тралейбусе адзін дзядзька, абмяркоўваючы з прыяцелем адмену савецкіх грошай. Каго ён сволаччу называў, можна здагадацца. А што ў СНГ ня выедзеш, дык гэта таксама чысьцюткая праўда.

З апошнім абменам грошай Расейскім банкам здарылася, як 22 чэрвеня 41-га. Усе ведалі, але напад быў «вераломным», нечаканым і г. д. У нашай Вышняй Радзе пра гэта аднак ведаць не жадалі — ну проста 200 Сталінаў напярэдадні вайны! — хаця апазыцыя ды прэса пра гэта паведамлялі неаднаразова.

Рускі Ваня пачухаў патыліцу, пачухаў, ды сказаў сам сабе: «А пошли вы все на (...), такие хорошие! Своя рубашка ближе к телу». Каб заспакоіць сваіх суайчыньнікаў, Цэнтрабанк Расеі без хітрыкаў растлумачыў гвалтоўную адмену савецкага рубля: з трох трыльёнаў рублёў толькі траціна абарочваецца ў Расеі, астатнія — у СНГ, хай, маўляў, імі цяпер печкі цепляць або прыбіральні абклейваюць.

Кашу расхлёбваць давялося нашаму праф. Багданкевічу, бо дэпутаты на вакацыях. Ён сьціпла папрасіў у расейскага Цэнтрабанка спачатку тлумачэньня наконт вераломнага акту, а потым — 1 мільярд расейскіх рублёў. Наш шаноўны старшыня Нацбанку не атрымаў, як вядома, ані адказу, ані грошай. Тым жа часам «старшы брат» тут жа адправіў ва Узбэкістан ажно 50 мільярдаў новых рублёў. Бо з Узбэкістанам трэба ахайна абыходзіцца, а Беларусь і так ля ног ляжыць.

Добра, што хоць дэпутаты на вакацыях, а так бы лезьлі на трыбуну навыперадкі, каб ударыць сябе ў грудзі: «Ребята, мы свои, мы — пскапские!».

7.

Людзі яны, канешне, някепскія, усе гэтыя нашы былыя працаўнікі райкамаў, парткамаў ды ЦК, але ж са сваёй дурацкай ідэялёгіяй перлі нават на фэрмы да кароў. А гэта памылка. Старшы брат вучыць — «Дружба дружбой, а табачок врозь». Трэба такія

# Пра новую ініцыятыву ўраду Беларусі

## Заява Сойму БНФ «Адраджэньне»

Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» адзначае, што пагаршэньне эканамічнага становішча ў Беларусі вынікае з антырэфарматарскай пазыцыі ўраду і намэнклятурнай большасьці Вярхоўнага Савету. Адсутнасьць самастойнай палітыкі кіраўніцтва Беларусі, панаваньне ў ім кампрадорскіх элементаў дазваляе ўладным структурам Расеі ажыцьцяўляць адкрыта імпэрскую палітыку ў дачыненьні да Беларусі, выкарыстоўваючы сваю паліўна-энэргетычную і сыравінную манаполію.

Пагаршэньне эканамічнага стану ў Беларусі і Ўкраіне дало палітычным колам Расеі, зьвязаным з вайскова-прамысловым комплексам, магчымасьць выкарыстаць прапанову заключэньня «славянскага эканамічнага саюзу» ў сваіх інтарэсах, пазбавіць гэтыя краіны эканамічнае самастойнасьці. Паступовая ліквідацыя незалежнасьці Беларусі і Ўкраіны можа адбыцца шляхам арганізацыі наддзяржаўных бюракратычных структураў і праслаўтага «цэнтру».

Заключэньне г. зв. эканамічнага саюзу з Расеяй разам з падпісаньнем ваенна-палітычнай дамовы аб калектыўнай бясьпецы замацуе прысутнасьць чужых войскаў на нашай зямлі, эканамічна разбураць нас, зацягне ў ваенныя авантуры Расеі.

Доказамі гэтаму зьяўляецца правакацыйная і супярэчная Хэльсінскім пагадненьням пастанова Вярхоўнага Савету Расейскай Фэдэрацыі пра Севастопаль, умяшаньне Расеі ва ўнутраныя справы Эстоніі, войны ў Абхазіі і Таджыкістане, дзе непасрэдны ўдзел бярэ расейскае войска і куды ўжо плянуюць уцягнуць Беларусь.

Рэалізацыя пляну «славянскага эканамічнага саюзу» падкладае бомбу пад існаваньне СНД, аддзяляе Расею ад Сярэдняй Азіі і кансалідуе апошнюю з суседнімі азіяцкімі краінамі, зьмяняе геапалітычную сітуацыю на Ўсходзе. Гэты плян, за які ўхапіліся шчыльна зьвязаныя з ВПК беларускі і ўкраінскі прэм´еры, сьведчыць, што для расейскага ВПК прысутнасьць Расеі на Украіне і Беларусі нашмат важнейшая за няўдалую расейскую палітыку ў Азіі, разблытваць вузлы якой хочуць прымусіць і нас.

Папярэднія шырока прапагандаваныя эканамічныя ініцыятывы ўраду Беларусі і яго кіраўніцтва скончыліся правалам.

Сойм БНФ асуджае супярэчныя інтарэсам нашага народу захады Старшыні Савету Міністраў Беларусі і тых урадоўцаў, што яго падтрымліваюць. Нельга дапусьціць стварэньня «эканамічнага саюзу» дзеля палітычнае гульні, у мэтах задавальненьня матэрыяльных інтарэсаў пануючай у Беларусі намэнклятуры, аднаўленьня імпэрыі і ўлады вайскова-прамысловага комплексу за кошт незалежнасьці Беларусі.

Прынцыпы, якія гарантуюць бясьпечную і дабрабытную будучыню нашай краіне,— гэта нэйтралітэт, рынкавыя рэформы ў эканоміцы, каардынацыя ўзаемавыгодных дачыненьняў з усімі суседзямі, найперш на поўдні і поўначы, вызваленьне з-пад манапольнай сыравіннай залежнасьці ад Расеі, эканамічнае, палітычнае і культурнае вяртаньне ў Эўропу, свабоднае разьвіцьцё беларускага грамадзтва, нацыянальна-культурнага адраджэньня.

**25 ліпеня 1992 г.**

**Г. Менск.**

# Аб грашовай рэформе ў Расеі і бязьдзейнасьці кіраўніцтва Беларусі

## Заява Сойму БНФ «Адраджэньне»

Чарговы раз Вярхоўны Савет Беларусі, урад і Нацыянальны банк краіны прадэманстравалі няздольнасьць праводзіць самастойную дзяржаўную палітыку.

Расейскі ўрад зьдзейсьніў грашовую рэформу, якая ўдарыла па інтарэсах іншых краін былога СССР, дзе знаходзіцца ў абарачэньні расейскі рубель. У гэтых умовах кіраўніцтва Беларусі так і не наважылася прыняць рашэньне пра ўвядзеньне нацыянальнае валюты, хаця інтарэсы нашай дзяржавы пільна вымагаюць такога кроку.

Сойм БНФ падкрэсьлівае вераломны ў дачыненьні да Беларусі спосаб правядзеньня рэформы з боку расейскага ўраду.

Сойм нагадвае, што БНФ ня раз папярэджваў Вярхоўны Савет і ўрад Беларусі пра неабходнасьць для нашай краіны падрыхтаваць сваю крэдытна-фінансавую сыстэму і ўвесьці ўласныя грошы. Але на працягу трох гадоў гэтая прапанова адхілялася. Зараз нашыя людзі вымушаны спажываць плён згубнае палітыкі кіраўніцтва дзяржавы.

Безадказнасьць паводзінаў кіраўнікоў краіны вымушае ставіць пытаньне пра неадкладную адстаўку Старшыні Савету Міністраў і Старшыні Нацыянальнага банку Беларусі.

**25 ліпеня 1993 г.**

**Г. Менск.**



# ВАЧЫМА НЕМЦА

рэчы ведаць. Прыкладам, невялікая Данія мяжуе толькі з адной краінай — вялікай Нямеччынай, аднак грошы мае ўласныя, кроны. Але сябраваць з тымі немцамі гэта не перашкаджае. Хоча датчанін паехаць у тую Нямеччыну, дык ідзе, купляе квіток, мяняе свае грошы. Або можа памяняць ужо на месцы. І аніякіх праблем. Карацей кажучы, няма такога, каб Данія карысталася нямецкімі грашыма, а ўжо Нямеччына сама вырашала — даць мільён ці два — на выплату заробка ўсім або толькі палове тых датчан...

Дарэчы, міністр фінансаў Расеі сп. Хведараў сказаў, што палегчыць складаныя грашовыя ўзаемадачыненьні паміж РФ ды іншымі былымі рэспублікамі дапамогуць толькі іхнія ўласныя валюты. Бо атрымлівалася, што на іхняй тэрыторыі абарочваюцца тры віды грошай (як у нас — зайцы, леніны, расейскія), а для разрахункаў ужываюцца яшчэ адныя. Расея свой крок зрабіла. Мы, як заўжды, спазьніліся.



Варта адзначыць, што Чэхія праз паўтары месяцы пасьля «разводу» са Славакіяй выпусьціла свае ўласныя грошы, хоць кроны нібы больш чэшскія й так, а таксама не зважаючы, што Славакія была супраць выпуска чэшскай валюты, бо выступала за агульную.

Хачу таксама нагадаць нашым шаноўным дэпутатам, што расейскі банк аценіў латвійскі лат у паўтары тысячы сваіх рублёў! Беларуская валюта магла б мець таксама някепскі шанц. Сярэднеэўрапэйская краіна, з адносна невялікім насельніцтвам. Аднак трэба яшчэ чакаць восені. Яшчэ невядома калі яны зьбяруцца на сваю сэсію і што вырашаць, калі толькі вырашаць наогул. А час усё сьпяшае, сьпяшае, а мы ўсё галеем, галеем...

8.

Калі параўноўваць савецкую грашовую рэформу 1991г. з расейскай сёлетняй, дык яны супадаюць амаль цалкам. За некалькі дзён да абмену грошай старшыня Дзяржбанка СССР сп. Герашчанка заявіў, што дасьць адцяць сабе руку, калі рэформа сапраўды здарыцца... Мабыць, дагэтуль ходзіць ён дзьвюхрукім. Сёлета расейскі банк напярэдадні падзеі запэўніваў: старыя купюры будуць абменьвацца паступава й не абмежавана... Дарэчы, у Чэхіі старыя грошы абменьваліся на працягу трох месяцаў, а папярэджаны людзі былі пра гэта за паўгады.

Далей, механізм рэформы цалкам паўтарыўся — было дазволена абмяняць невялікую колькасьць купюраў, астатнія былі замарожаны ў банку. Такім парадкам, адбыўся абмен грошай з іх частковай канфіскацыяй, бо банкаўскія ўклады здэвальваваліся. Гэтыя супадзеньні можна доўжыць. Аднак цікава іншае, а менавіта тое, што савецкая грашовая рэформа 1991 года ўзмоцніла незалежніцкія памкненьні саюзных рэспублік, выклікала вялікае павелічэньне дэфіцыту тавараў. Праз тры месяцы пасьля яе адбылося «паўлаўскае» падвышэньне цэнаў, а цераз сем сам прэм´ер Паўлаў узяў удзел у кіраўніцтве ГКЧП... У Расеі сёньня задаюць сабе пытаньне й самі ж адказваюць на яго: калі гэта ня змова (сёлетняя грашовая рэформа), дык тады праява поўнай прафэсійнай непрыдатнасьці.

9. У нямецкай тэлеперадачы апавядаюць пра грашовую рэформу ў Эстоніі. Восем эстонскіх кронаў каштуюць адну дойчмарку. Камэнтатар гаворыць: эстонцы задаволены, бо спраўдзілася іхняя мара пра ўласную валюту. Па-людзку ім зайзрошчу. Нашая Вышняя Рада марыць адно аб тым, каб у нас не было Беларускай Дзяржавы, беларускага сьцяга, гэрба, гімна, войска і валюты. Ура, таварышы!

10.

Пра ліквідацыю савецкіх грошай пачуў па радыё. Заехаў да бацькоў на вёску, каб папрацаваць над раманам пра часы перабудовы. Палова лета, здаецца ўсё спынілася, нічога болей не адбудзецца... Наступнага дня — рэакцыя Белнацбанку. Пайшоў у сельмаг, народ лаецца, бо прадаўцы спаганяюць з усіх па 1—4 рублі, рэшты не даюць, бо траячкі з рублямі ўжываць забаронена — савецкія. Народ мае рацыю. Які ДУРАНЬ праставіў на вавёрцы замест 5 руб. 50 кап. й не зрабіў адпаведнікаў траячцы й рублю?

А як жа пачалі «скругляць» цэны — з імпэтам! Быў бохан 28 рублёў, стаў 30, назаўтра 50, а пасьлязаўтра і ўсе 70! Праўда, разважыўшы, вярнуліся зноўку да паўсоткі. Напачатку чэрвеня раз падвысілі цэны, напрыканцы ліпеня — у другі, а тут пры нагодзе, пад шумок, усяго праз два тыдні — яшчэ разок.

Як са скрухай заўважыў праф. Багданкевіч, Расея выйшла са славэтнай рублёвай зоны, а мы ў ёй засталіся. Вавёркі зусім паперкамі зрабіліся, на ўзроўні малдаўскіх ды казахскіх купонаў. Вось ужо дзе сапраўды — здрада нашых тупагаловых абраньнікаў дзяржаўных інтарэсаў Беларусі ды ейных грамадзянаў.

11.

Паехаў я ў райцэнтр абмяняць свае пакамечаныя рублёўкі ды чырвонцы, а тамака — чаржышча. Пастаяў з паўгадзіны, папацеў у задусе, выйшаў ды выкінуў у сьметніцу грошыкі з надпісам на 15 мовах «карбаванец, рубель, кіркуду». Не шкада, тым больш у пашпарце павінны былі напэцкаць: абменена, маўляў, яму 200 рублёў. Зрэшты, і пашпарта не шкада, савецкі.

г. Кладна. **П. ГЛЕБА,**
літаратар.

**Фотаздымка паводле карціны «Зборшчыкі падаткаў» Марынуса Ван Роймэрз-Вэйле (каля 1493—1567).**

# Курт Хайэнбэрг — кіроўца з Гановэра

Алімпійская дарога за Менскам была амаль пустая. Зрэдку праносіліся па ёй легкавікі, аўтафуры з замежнымі нумарамі. Наша навюткая аўтавазаўская «пяцёрка» пры абгоне, здаецца, выціскала з сябе ўсю моц, закладзеную канструктарамі. Непадалёк ад вадасховішча Пціч нам прагаласаваў кіроўца грузавога «Мэрсэдэса». Калі наш легкавік прыпыніўся, кіроўца хуценька падбег да нас і на ломанай расейскай мове папрасіў падвезьці яго да бліжняга тэлефона. Уладкаваўшыся ў кабіне «Жыгулёў», кіроўца пачаў тлумачыць, што ён з Нямеччыны прывозіў гуманітарную дапамогу ў расейскі горад Яраслаўль. На адваротным шляху даваліся запраўіцца ў Смаленску. Вось адтуль, ад запраўкі й пачаліся непаладкі. Рухавік страціў моц, пачаў чыхаць, а за Менскам і ўвогуле заглох. Цяпер трэба затэлефанаваць на станцыю тэхнічнай дапамогі й чакаць, калі прыедуць спэцыялісты.

Кілямэтраў праз дзесяць нарэшце трапіўся так патрэбны тэлефон. Наш спадарожнік пабег тэлефанаваць, а мы, параіўшыся, вырашылі, што чужога чалавека няёмка пакідаць аднаго на дарозе й лепей адвезьці яго назад, да яго аўтамашыны.

Патэлефанаваўшы, нямецкі кіроўца вярнуўся да нас і, усчуўшы пра наша рашэньне, ўзрадаваўся, як малое дзіця. З задавальненьнем распавядаў, што яго завуць Курт, а прозьвішча Хайэнбэрг. Жыве ў Гановэры, мае жонку, двух дзяцей. Праз Беларусь едзе ня першы раз, бо прыкладна год возіць гуманітарную дапамогу ў Расею. Гэтым разам ён прывозіў мясныя кансэрвы на Яраслаўскі маторны завод. Пра Расею Курт разважае з сумам, цісьне плячыма й дадае, што Расея — велізарная, багатая краіна, а гаспадара няма. Багацьце яе гіне без плёну, таму й выглядае яна пажабрацку. Пра расейцаў Курт апавядаў так: гэта добрыя, вясёлыя й даверлівыя людзі. Але сярод іх шмат ашуканцаў, махляроў. Гаварыць такое Курту дае права той выпадак, які адбыўся з ім у гэтым рэйсе. На маторным заводзе выгружаць прывезенае прыйшлі фактычна адны жанчыны. Курту было непрыемна глядзець, як яны цягаюць цяжкія скрыні, ён пайшоў дапамагаць, а за гэты час з кабіны аўтамашыны скралі яго асабістыя рэчы — порткі, кашулю й пальчаткі. Калі жанчыны даведаліся пра здарэньне, то пачалі казаць такія словы, якіх Курт да гэтага не сустракаў ні ў водным слоўніку. Ваяўнічасьць жанчын вельмі ўстрывожыла Курта. Ён згадаў ім, што гэта невялікая страта й што ім, жанчынам, не пасуе быць злымі.

Хвілін праз дзесяць пасьля таго, як мы вярнуліся да машыны Курта, прыехала й дапамога. Курт скончыў свой аповяд і пайшоў да рамонтнікаў. Мэханікі хутка знайшлі прычыну паломкі — з-за бруднага паліва забіліся паліваправоды. Каб іх зноўку ўвесьці ў дзеяньне, неабходна была стацыянарная прамыўка. «Мэрсэдэс» узялі на буксір, а Курт на разьвітаньне сказаў, шо нас не выратуе аніякая гуманітарная дапамога. Для таго, каб стаць багатымі, неабходна атрымліваць ад Эўропы перадавыя тэхналёгіі, рабіць рэканструкцыю вытворчасьці й вучыцца працаваць.

Занатаваў
**Г. АСТРОЎСКІ.**

● **Пошта**

# Права на абразу

Адна з прымавак старажытных грэкаў сьцьвярджае: толькі дурань забівае вала, які цягне плуг. На жаль, на працягу дзесяцігоддзяў з сялянамі так і абыходзіліся партыйныя функцыянэры, трактуючы хлебаробаў як жывёлу. Нярэдка селяніна за скрадзеную жменьку зерня садзілі на некалькі год у турму, катавалі як фізічна, так і духоўна. Прымушалі працаваць задарма. Лепшых сялян называлі злодзеямі, кулакамі, а нярэдка й проста ворагамі народу. Рабілася гэта з адной мэтай: усялякімі спосабамі апраўдаць вар´яцкую палітыку крамлёўскіх партыйных лідэраў. А тыя за свае пралікі як у эканоміцы, так і ў сельскай гаспадарцы патрабавалі дзесяткі тысячаў ахвяраў, якіх бязьвінна нішчылі ў лягерах Сібіры й Запаляр´я.

Памятаю, калі ў 1945 годзе мяне арыштавалі як ворага народу й зьмясьцілі ў лягэр на тэрыторыі Польшчы, то першае, што кінулася мне ў вочы, — на турэмных нарах знаходзілася мноства вясковага люду. Размаўляючы з некаторымі, я зразумеў, што многія з іх нават і ня ведаюць, за што іх арыштавалі. Харч і ўмовы лягэрнага жыцьця былі такімі, што людзі сотнямі валіліся з ног, хварэючы ад зьнямогі. Захварэў праз некаторы час на хваробу Боткіна і я. Калі цярпець стала немагчыма, падыйшоў да ахоўніка, які быў у чыне капітана ўнутраных войскаў, і сказаў, што калі я чалавек, то маю права на лекі, а калі не, то мяне лепей застрэліць як заразную жывёлу, бо я толькі разношу хваробу на астатніх. Капітан расчырванеўся й абразьліва сказаў: «Мы ворагаў народу не лякуем, здыхай сабе як сабака».

Я самастойна падаўся да шпітальнага блоку. Тое, што там убачыў, захавалася ў памяці на ўсё жыццё. Бяз посьцілак, на нешаляваных дошках ляжалі хворыя. Найбольш сярод іх пакутавала на сухоты. Абслугоўвала гэтых людзей санітарка з ліку вязьняў. Ня буду гаварыць пра кваліфікацыю гэтай «служкі Гіпакрата», але дадам, што, каб зрабіць укол нашай мэдычцы даводзілася па дзесяць разоў спрабаваць увесьці іголку.

Мне пашанцавала, бо я разам з некалькімі хворымі пад канвоем быў перапраўлены ў сапраўдны шпіталь. Больш года лекары ратавалі маё жыцьцё, і пасьля шпіталя мяне ўжо не арыштоўвалі. Што сталася з тымі, хто застаўся ў лягеры, мне невядома.

**В. СЕГІНЬ,**
**г. Горадня.**





# НАШ ГАРТ

# Замест Беларускай гімназіі — школа імя Сталіна

### Гутарка з вэтэранам СБМ спадаром Аляксандрам Курчэйкам.

**— Спадар Аляксандр, як вам давялося патрапіць у Саюз Беларускай Моладзі?**

— СБМ быў за нямецкай акупацыяй. Як пачалася вайна з немцамі, я меў дваццаць адзін год. Вайна ёсьць вайна — куды падзецца? А я ўвесь час марыў доктарам быць — бацька моцна хварэў. І вось чую я — у Баранавічах адчыняецца мэдычная школа. Я туды. Сустракае мяне Леў Гарошка: «Адкуль прыехаў?» «З Навін, з Наваградчыны,» — адказваю. «Што ж спазьніўся так?» — а заняткі ўжо тым часам пачаліся. «Толькі цяпер дачуўся». «Ну што ж, сядай, пішы, што ведаеш пра сваю Наваградчыну». Саджуся я і пішу — трохі пра гісторыю, якія з Наваградчыны людзі славутыя паходзяць...

**— А што ўжо ведаў спадар Аляксандр з беларускай гісторыі на той час?**

— Вучыўся то я ў польскай школе. Але ж бацька мой — беларус,— вось у сям 'і і дастаў першыя веды. Бацька мой сам настаўнікам быў. Меў знаёмства з Васілём Рагулям, вядомым дзеячом беларускім. Калі ў нас па людзёх зьбіралі грошы на будоўлю беларускай гімназіі, то й мой бацька даў 5 злотых. Мне пазьней трохі пашэньціла вучыцца ў той гімназіі — ужо ў трыццаць дзевятым. Тады з Вільні ў Наваградак былі пераведшы гімназію, толькі што нядоўга там прабыла. Пасьля выбараў і далучэньня Заходняй Беларусі да БССР гімназію зьліквідавалі, а на яе месцы зрабілі школу імя Сталіна. Беларуская мова засталася там толькі як прадмет...

**— Пасьля такой падрыхтоўкі мусілі здаць іспыт у Гарошкі!**

— Пісаў цэлую гадзіну, падаю ды выбачаюся за памылкі. Ён узяў, прачытаў, засьмяяўся й сказаў: «Сядай»,— прыняў, адным словам. Пачаў вучыцца — усё на беларускай мове...

Ну і нарэшце ж пра СБМ! Аднаго разу Леў Гарошка зьбірае нас і кажа: «немцы дазволілі нам стварыць сваю арганізацыю. Будзем закладаць Саюз Беларускай Моладзі!». На чале нашае школьнае арганізацыі стаў такі Мануйла. А мне кажуць: «Ты, Курчэйка, хлопец рухавы — будзеш у нас грамадовым». Гэта значыць пад маім началам было 25 чалавек — юнакоў.

**— І што ж вы рабілі ў сваім Саюзе?**

— Зьбіраліся, вершы вучылі, дэклямавалі, хор быў, песьні сьпявалі, канцэрты ладзілі... А што пішуць — то няпраўду пішуць,— што фашыстоўская арганізацыя была. У нас, праўда, дысцыпліна была, форма свая была, падобная, як цяпер літоўская. І правіла ў нас было — як ты юнак, як ты шчыры беларус, то павінен ажаніцца толькі з беларускай дзяўчынай, каб нацыя ня зьгінула. Я, праўда, пазьней гэтае правіла парушыў. На літоўцы ажаніўся, тут у Літве, у Нямеччыне, прыжыўся...

**— Спадар Аляксандр, а вашыя песьні, вершы з тых часоў не забыліся?**

— Чаму ж не, песьні ў нас тады былі ўсё болей патрыятычныя:

Крывічанскае войска шагае,  
У крывавы рыхтуецца бой,  
А дзяўчына жаўнера пытае—  
Чаму ўзяці ня хоча з сабой...  
Такі быў наш СБМ.

■

Пасьля, перапісваючы з магнітафоннай стужкі тэкст нашае гутаркі, узяўся я падрахаваць, што ж насамперш прыпомнілася чалавеку з ягонай эсбээмаўскай біяграфіі (калі б адмыслова папрасіць спадара Аляксандра — упэўнены,— ён бы мог напісаць мэмуары намнога багацейныя). Дык што ж атрымалася? Тое, што маладым хлопцам хацелася вучыцца, хацелася быць «шчырымі беларусамі», хацелася ў прыгожай форме, з песьняю, зухавата прамаршыраваць перад дзяўчатамі? Дык ці ж гэта кепска?

Савецкія карныя ўлады, аднак, палічылі іначай. 9 мая 1945 года спадара Курчэйку арыштавалі і «за СБМ» прысудзілі пяць гадоў зьняволеньня ў лягерох. Потым яшчэ дабавілі — вечнае пасяленьне ў Сыбіры. Ня дай Бог нікому зазнаць гэткае. Аляксандр Курчэйка пераважыў сваю лягерную эпапэю годна — не зламіўся, не страціў свайго працоўнага запалу, не расьцярушыў скарбаў душы. Пра эта сьведчыць хаця адзін такі, запісаны мной эпізод:

«Было загадана мне абсталяваць мэдычны пункт у пасёлку Чысьцякі. Сам бялію, сам узяўся сценку-перагародку зрабіць. А трэба ж нейкі матэрыял. Падаўся я вышэй па рэчцы у пасёлак Машакоўку, падыходжу да прараба і пытаюся: «Ці можна ў вас гарбылёў выпісаць?» Той кажа: «Бяры колькі хочаш». Ну я і давай сабе цягаць. І трэба ж было — зачапіўся, ледзь не грымнуўся. «Каб ты згарэў,— кажу,— з гарбылём». Пачуўшы маю лаянку, падышоў да мяне прыгожы мужчына, гадоў можа 35—40, загаварыў да мяне. Слова па слову: «Зямляк? Зямляк!». Аказаўся гэта Барыс Мікуліч, пісьменьнік. Пайшлі мы да яго да хаты, доўга гаварылі. Ён мне кажа: «Я моцна хварэю. Мне доктар выпісаў глюкозу і аскарбінку — няма нідзе». А я яму: «Дык я на днях ужо еду атрымоўваць мэдыкамэнты! Прывязу — гарантыя, можа ня 10, то хаця б 5 ампулаў». Кажа: «Прывязі братка».

Я назаўтра дошкі спарадкаваў і паехаў па лекі. Дні чатыры прабыў там — пешшу ж трэба было ісьці, на папутных дабірацца. Вяртаюся, і як сэрца маё чула,— нешта дрэннае. Прыходжу ў Машакоўку да ягонае хаты — замок вісіць. Пытаюся: «Дзе Мікуліч?» Кабета адказвае: «Мікуліч ужэ атдыхае. Умер».

Пайшоў я ў тайгу, а тайга чым багатая — кветкі. Па мэтру! Хто іх там садзіў, як кажуць,— ці бог ці чорт,— ня ведаю. Кветкаў нарваў, паклаў на магілу, 20 ампулаў глюкозы кругом магілы заткнуў, аскарбінку тую паклаў — ну і ўсё».

**Гутарыў С. ВІТУШКА.**  
**Вільня.**

---

**Алесь Чобат**

# ІШКАЛЬДЗЬ

### Малое падарожнае апавяданьне

Час вяртацца дахаты і час зьбірацца ў дарогу.

Калісьці былі камсамольскія ўдарныя, цаліна, будаўнічыя атрады — народ так зацягаўся па сьвету, што нават паэты нагадвалі, мауляў, трэба дома бываць часьцей. У Скідалі дзьве суседкі неяк былі пасварыліся, чый сын важнейшы: адзін жа служыў афіцэрам у Сухумі, а другі рабіў начальнікам у Душанбэ — тады рабіць інжынерам у Бабруйску ці нават сантэхнікам у Менску нічога ня значыла: неўдалякі! Пра шмат разоў памянуты самапальнай мастацкай самадзейнасьцю на калгасных сьвятах мой родны кут успомнілі пазьней: пасьля вайны ў тых жа Душанбэ і Сухумі — палюбіць яго, што праўда, не палюбілі, але ж адседжвацца ў родным куце лягчэй, чым бадзяцца па войнах паміж «братніх народаў»!

Тым часам рынак узяў за горла. Калі тое было, што адсюль да Скідаля езьдзілі за сорак капеек, а да Менску за чатыры дзевяноста пяць! А цяпер сядзіш у гэтай старажытнай Гарадні, глядзіш на тое, як яна валіцца, і чакаеш нейкіх там пераменаў... Якія перамены! Тут цеплатрасу на вуліцы Будзённага ад вакзала да «польскага» базара ніяк адрамантаваць ня могуць! І просіцца сэрца ў дарогу, хоць ты ня дробны падарожны гандляр, не афіцэр з наваяваным у Германіі дабром і нават не народны дэпутат... Але нарэшце прыходзіць лета, і зьяўляецца неадкладная патрэба наведаць Ішкальдзь і Слонім.

У Слоніме мае адбыцца літаратурнае паседжаньне — запрашаюць паэт і электрык Рудольф Пастухоў ды празаік, бізнэсмэн і старшы прапаршчык рэзэрва Іван Сяргейчык. Што праўда, неяк тэлефанаваў адзін слонімец і папярэджваў, што з Пастуховым і Сяргейчыкам лепш ня зьвязвацца — бачыце, сягоньня нават у Слоніме нейкія інтрыгі! — але ж мы сваіх людзей ведаем лепш!

Едзем цягнікім, але хуткім. У вагоне насупраць нас абураецца добра падгадаваная, апранутая з прэтэнзіямі на адраджэньне прапітай маладосьці савецкая пані:

— И что он всё критикует, этот ваш Позняк?! Сам же ничего не предлагает! Откуда эта злость у него на всех?! — пані пачула, што гаворым «па-хамску», і выкладоўваецца. Справа ясная: будзеш пры сваім мужыку выкладоўвацца, ён табе ўсе зубы пераліцыць з пломбамі і пратэзамі разам...

Дызель даімчаў да Слоніма за дзьве з паловай гадзіны і дзьвесьце семдзесят рублёў з аднаго чалавечага носа. Сонца назаўжды зьнікла за птушкафабрыкай пад Скідалем, а далей усю дарогу чорныя набрынялыя хмары зьціскалі цяжкое вільготнае паветра, віселі над самымі стрэхамі раскіданых між балот хатаў, азмрочвалі чалавечыя думы. Пад Зэльвай першыя кроплі пырснулі па шклу... Гіблае месца! Колькі разоў тут быў — і ўсё ці дождж, ці сьнег, ці якая плюта, ці раскіслае начальства! А ўжо пад Слонімам узяўся такі лівень, што ў вагоне пацямнела, як ноччу...

— Казала табе: вазьмі скураную куртку! — аб 'явіла строгую вымову Данута.— Змокнеш у дрыбадан!

— А я ведаў?! — апраўдваюся я, быццам наш уканы прэм 'ер-міністр пасьля чарговага ляпсуса з «эканамічным саюзам».— Сонца ж сьвяціла, нічога на дождж не паказвала...

— А ідзі ты! — махае рукой Данута.

І сапраўды. На вакзале машыніст цеплавоза канца навальніцы чакаць ня будзе, а зачыніць дзьверы і паедзе далей — у нас хіба хто падумае пра чалавека?! — а таму не застаецца нічога другога, як скочыць з цёплага вагона проста пад расхрыстанае неба, дарэмна прыкрываючыся японскім парасонам занадта аблегчанай як на нашыя ападкі канструкцыі. Але на пэроне, як з-пад бэтону грыб, вылазіць празаік Іван Сяргейчык і камандуе:

— Бягом марш да машыны! За мной!

Іван пару гадоў ваяваў у Аўганістане ў штурмавой спэцгрупе — ён з тых прапаршчыкаў, якія заўсёды ведаюць, што рабіць. А наконт «дзелавых на сваім складзе» даўно разабраўся таварыш маёр Вінаградаў з Тэхналагічнага інстытута:

— Товарищи студенты! Всё, что создано народом, принадлежит народу, но самая лучшая и вкусная часть созданного народом принадлежит прапорщикам...

Да Рудольфа на дачу! — камандуе ў машыне Іван.

— Ёсьць на дачу! — адказвае шафёр Іван Міхайлавіч, падпалкоўнік-верталётчык і «аўганец», які цяпер працуе ў фірме прапаршчыка Сяргейчыка.

Апэрацыя па сустрэчы гасьцей з вабласной сталіцы распрацаваная ня горш, чым разбор ў аэрапорце «Мінск-2» прэзідэнтаў з руінаў былога СССР. Нічога дзіўнага — Слонім калісьці быў сталіцай губэрні: тут пра гэта ніколі не забывалі!

Нават сонца на хвіліну, як казала мая бабка, вышчэрыла зубы. Асфальт блішчыць. Слонім квітнее. Ад лужынаў расьце цёплы дух. У вушах круціцца славуты «Слонімскі вальс»: ціха надШчарай лягла соннай парою імгла і г. д.

Прыязджаем на дачу. Ціхі падвячорак. Самы час адчыняць літаратурнае паседжаньне.

— Мама!!! — гэтак традыцыйна Рудольф вітае Дануту.— Алесь, сынок! Прашу за стол! Іван, памагай!

Засэрвіраваны класічны фуршэт, як на ўрадавым прыёме, але ў параўнаньні з ўрадавым больш шчыры і просты. Ну — за сустрэчу! Спачатку заслухалі справаздачу слонімцаў: Рудольф пасьля некалькіх пераробак склаў на дачы выдатную печ, у якасьці дэпутата выкрыў чарговыя прайдзісьветаў і распрацоўвае новую тэму ў літаратуры; Іван надрукаваў адну кніжку, піша другія, кіруе прадпрыемствам, пашырае вытворчасьць, купляе абсталяваньне, а яшчэ камандуе «саюзам аўганцаў» у дзьве з паловай сотні чалавек.

— Хлопцы,— кажа Данута,— то вы кантралюеце цэлы Слонім!

— Не кантралюем! — адказвае Рудольф.— Не кантралюем, але з усімі супрацоўнічаем і шукаем кансэнсус! Пайшлі на шашлыкі!

У лесе зноў дробны дождж. Гальлё разгараецца слаба.

# АПОШНЯЯ СТАРОНКА



Фатаграфаваў У. ПАРФЯНЮК.

## Крымінальная хроніка

**За мінулы тыдзень на тэрыторыі вобласьці зарэгістравана 88 злачынстваў і здарэньняў. Адметная прыкмета — значная колькасьць забойстваў (3), цялесных пашкоджаньняў (7), рабаваньняў (10), а таксама дарожных аварый і няшчасных выпадкаў, многія з якіх закончыліся трагічна.**

■

Жудаснае злачынства зьдзейсьнена вечарам у панядзелак на тэрыторыі Смаргонскага бэтоннага завода. Пад час сумеснага распіцьця моцных напояў «на дваіх», паміж сабутэльнікамі ўзьнікла сварка, у ходзе якой малады рабочы каапэратыва «Альянс» спачатку зьбіў свайго сябра па працы, а потым абліў саляркаю і падпаліў. Вынік трагічны — праз два дні пацярпелы ад атрыманых апёкаў памёр у шпіталі.

■

У сераду на Смаргоншчыне адбылася яшчэ адна трагічная разборка. На гэты раз у в. Данюшава 39-гадовы палявод мясцовага калгаса ў якасьці ахвяры выбраў сваю жонку, якая з праколатым нажом сэрцам памерла на кухні.

■

Наступная крывавая драма разыгралася вечарам 13 жніўня ў Горадні ў прыватным доме па вуліцы Маякоўскага. 70-гадовы пэнсіянэр вымушаны быў падняць сякеру на няпрошанага «госьця» — 32-гадовага жыхара вёскі Келбаскі, які нідзе не працаваў. Той праз вакно залез у яго дом.

Назаўтра раніцай стары сам зьявіўся з пакаяньнем у міліцыю. Цяпер нялёгкая задача стаіць перад судом — вызначыць, ці перавысіў стары мяжу неабходнай абароны.

■

На мінулым тыдні ахвярамі злачынцаў сталі двое безпрацоўных грамадзян. У першым выпадку на вул. Будзённага ў Горадні ў 18-гадовага менчука трое рабаўнікоў адабралі 300 даляраў ЗША і 30 тысяч «зайчыкаў».

Яшчэ адзін «бядняк», 25-гадовы жыхар вёскі Цыдовічы Гарадзенскага раёна, вымушаны быў «падзяліцца» 530 нямецкімі маркамі і 65 далярамі з рабаўніком, які раніцай сустрэў пацярпелага на «вузкай сьцежцы» непадалёк ад роднай вёскі.

■

Вечарам у пятніцу ля вёскі Луцкаўляны Гарадзенскага раёна трактарыст мясцовага калгаса, едучы на МТЗ-80 праз мост на рэчцы Індурка, перакуліўся й ад атрыманых пашкоджаньняў на месцы памёр.

■

Той жа парой ля вёскі Гледнявічы Ваўкавыскага раёна малады гарадзенец передаў руль асабістага матацыкла свайму нецьвярозаму земляку, які на павароце зьехаў у кувэту й стукнуўся аб дрэва. У выніку парушэньне правілаў дарожнага руху каштавала жыцьця ўладальніку матацыкла.

■

Ратуючы жыцьцё парушальніка-пешахода, загінуў сам 40-гадовы начальнік цэха Лідзкай абутковай фабрыкі, які з мэтай прадухіленьня наезду на пешахода выехаў на асабістых «Жугулях» на сустрэчную паласу руху, дзе сутыкнуўся з такім жа легкавіком.

■

Незвычайнае здарэньне адбылося раніцай у суботу на дарозе ля вёскі Круцілавічы Дзятлаўскага раёна. Там мясцовы калгасьнік, кіруючы асабістым «ІЖом», не разгледзеў па-за туманам каня, які пераходзіў дарогу. У выніку кіроўца трапіў у бальніцу, а конь на жывёльны магільнік.

■

Аб тым, што некаторыя грамадзяне страцілі чалавечыя рысы, сьведчыць паведамленьне з Дзятлава, дзе даярка калгаса «Зара» заявіла ў аддзел міліцыі аб цяжкім і дзікунскім злачынстве — згвалтаваньні дзьвюх яе малалетніх дачок ад першага шлюбу, якое ўчыніў яе цяперашні мужык.

■

«Чорным» днём аказалася субота 14 жніўня, якая акрамя ахвяраў забойства й дарожнага здарэньня «забрала» яшчэ 5 чалавечых жыцьцяў. Прывядзем хроніку трагічных падзей:

**9.00.** На таку в. Ціхаволя Сьвіслацкага раёна засыпала ў бункеры зернем вучня шостага класа мясцовай школы, які там працаваў.

**11.10.** У Слоніме з балкона 8 паверха сваёй кватэры выкінуўся 80-гадовы пэнсіянер, які на месцы памёр.

**13.00.** Каля в. Беражаны Гарадзенскага раёна патанулі састарэлы жыхар гэтай вёскі й студэнт Гарадзенскага унівэрсітэта, якія пераплывалі на лодцы Нёман і перакуліліся.

**17.40.** На рацэ Котра паблізу цукровага завода патануў 42-гадовы жыхар г. Скідэля, які нідзе не працаваў.

**23.00.** У в. Табала Гарадзенскага раёна пад час перавозкі сена з воза зваліўся ўніз галавой 85-гадовы стары, які там жа, на вуліцы, памёр.

**Г. СЫСОЙ.**

## Квота — 4 тысячы

Як стала вядома рэдакцыі «Пагоні», шмат каму з тых, хто выказваў жаданьне паехаць да Вільні на сустрэчу з Папам Рымскім Іаанам Паўлам II, прыдзецца застацца дома. У лісьце на імя біскупа Гарадзенскай эпархіі ўрад Летувы паведамляе, што для Беларусі выдзелена квота ўсяго на чатыры тысячы паломнікаў. З гэтае нагоды кіраўніцтва каталіцкай дыяспары Горадні зьвярнулася да Эпіскапату Летувы з ультыматыўнай заявай дамагацца ад ураду зьняцьця ўсіх абмежаваньняў, якія тычацца іншаземных грамадзянаў, пад час візіту высокай духоўнай асобы.

**Г. У.**

## Мірны старт

З лікам 1:1 юнацкая зборня Беларусі завяршыла сваю стартавую гульню з футбалістамі Паўночнай Ірландыі ў Бэлфасьце, дзе праходзяць адборачныя сустрэчы чэмпіянату Эўропы сярод футбалістаў да 18 год.

**Г. СЫСОЙ.**

## Страты на Палесьсі

Некалькі запар дажджоў, што выпалі за апошнія дні на Палесьсі, зруйнавалі сьледам за бульбянымі й збожжавымі палеткамі плошчы, якія былі засеяны ільном. Толькі ў Пінскім і Столінскім раёнах зьнішчана некалькі соцень гэктараў ільняных палёў. Гэта велізарныя страты, лічыць галоўны тэхнолаг Пінскага раённага агракомплексу Ян Сачкоўскі, бо разам з ільносаломкай загінула і семя, з якога на Піншчыне сёлета зьбіраліся вырабляць алей.

**Г. У.**

**Удакладненьне: у № 24 замест загалоўка «У апазыцыі да праваслаўя і каталіцызма» не па віне рэдакцыі было надрукавана «У апазыцыі да праваслаўя». Перапрашаем аўтара.**

## Памяці Параскевы Рыгораўны Шаўчонак

**14.10.1914—13.08.1993**

**Выказваем глыбокае спачуваньне паэтцы Марыі Шаўчонак, якую напаткала вялікае гора — памерла маці.**

**Параскева Рыгораўна Шаўчонак, у дзявоцтве Шаблінская, нарадзілася ў вёсцы Пярэскаль на Магілёўшчыне ў працавітай сям'і. У бацькоў іх было пяцёра сёстраў і двое братоў, з якіх яшчэ жывыя Маня Цыганок і Арына Сіняўская.**

**Бацьку Параскевы Рыгораўны закатавалі фашысты ў роднай вёсцы, спалілі хату. Брат Макар загінуў на фронце. Пахавальную на мужа Сіланцiя Мікалаевіча, кулямётчыка, да вайны майстра дарожнага будаўніцтва, Параскева Рыгораўна атрымала праз некалькі месяцаў па нараджэньні малодшай дачкі Марыі. Трэба было самой садзіць соткі і працаваць на калгасным полі за пустыя працадні, ставіць на ногі дзяцей. Іх было трое. Васіль скончыў будаўнічы тэхнікум, пасьля і інстытут. Валодзя працаваў шафёрам, загінуў у саракагадовым узросьце ў аварыі на дарозе.**

**Васіль угаварыў маці збыць на Магілёўшчыне гаспадарку, якая надрывала здароўе маці, і паехаць з ім у Алма-Ату. Там яна працавала вартаўніком. Аднойчы трапіла ў буран, прамокла, падхапіла запаленьне лёгкіх. З таго часу здароўе зусім пагоршылася.**

**Марыя ў 1965 годзе скончыла БДУ і прыехала па накіраваньню ў шчучынскую раёнку «Савецкая вёска». Маці пераехала да яе. З 1978 году Марыя працуе рэдактарам Гарадзенскай студыі тэлебачаньня, і Параскева Рыгораўна жыве з дачкой у нашым горадзе. Марыя цярпліва апякуецца маці, якая шмат хварэе...**

**У сьціплых далікатных вершах Марыі Шаўчонак застаецца душа яе маці, якая натхняла дачку дабрынёю і мудрасьцю, засланяла яе сваім мацярынскім цярпеньнем. Вечная ёй памяць.**

**Гарадзенскае аддзяленьне Саюзу пісьменьнікаў Беларусі.**

**«ПАГОНЯ»**

**Рэдактар С. АСТРАЎЦОЎ**

**Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»**

Адрас рэдакцыі: 230023, г. Горадня, вул. Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газэта выдаецца штотыдзень па пятніцах.
Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г. Горадня, вул. Паліграфістаў, 4.

**Падпісана да друку .1993 г.**

**Тыраж 3188 паасобнікаў. Замова 3682**